20 верасня 1994 г.
Аўторак
№ 103(13820)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЗ ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА



Малюе Віктар ДУБОВІК





*Два дні ў Мінскім палацы чыгуначнікаў упершыню ў Беларусі праходзіў Фестываль магаў. Сваё прафесійнае майстэрства дэманстравалі ілюзіяністы з Беларусі, Расіі і Украіны.*

НА ЗДЫМКУ: удзельніца фестывалю — адзіная жанчына-ілюзіяніст у Беларусі Таццяна НІКІЦЕНКА з Віцебска.
Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Пра індэкс спажывецкіх цэн

Дзяржаўны камітэт па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў жніўні ў параўнанні з ліпенем 1994 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 153,4 працэнта. У параўнанні са снежнем 1993 года цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі ў 7,1 раза.

* * *

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за жнівень 1994 года Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь паведамляе, што грашовыя даходы насельніцтва за жнівень у выглядзе сацыяльных пенсій, дапамог, стыпендый, заработнай платы і грашовага забеспячэння, якія атрымліваюцца з бюджэтных крыніц, індэксуюцца на 153,4 працэнта з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт росту індэкса спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

У межах 20 000 рублёў — 1 працэнт,
ад 20 001 да 40 000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходаў, што перавышае 40 000 рублёў, не індэксуецца.

Грашовая кампенсацыя ў сувязі з увядзеннем свабодных цэн на хлеб і хлебабулачныя вырабы, малако і малочныя прадукты, дзіцячае харчаванне, устаноўленая пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 жніўня 1994 года нумар 3 "Аб мерах па аказанню фінансавай падтрымкі асобным катэгорыям грамадзян", індэксацыі не падлягае.

Насельніцтву, што атрымлівае даходы з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

### БНФ пачынае парламенцкую кампанію

*Як паведаміў каардынатар апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Сяргей Навумчык, у бліжэйшыя дні члены апазіцыі, народныя дэпутаты З.Пазьняк, У.Заблоцкі, С.Навумчык маюць намер наведаць Пастаўскі раён, у якім у час нядаўна праведзенай прэзідэнцкай кампаніі лідэр БНФ набраў значны працэнт галасоў.*

Па сутнасці, з гэтай паездкі, паводле слоў С.Навумчыка, пачынаецца парламенцкая кампанія БНФ. Ён таксама падкрэсліў, што апазіцыя, пакідаючы патрабаванні аб датэрміновых выбарах, асноўную ўвагу ўдзяляе Закону аб выбарах, які трэба дапрацаваць з улікам інтарэсаў грамадства, і які павінен уключаць у сябе выбары па партыйных спісах. Акрамя таго, апазіцыя гатова прадставіць свой праект гэтага закона. С.Навумчык выказаў надзею, што парламент прыме дэмакратычны Закон аб выбарах, але ў той жа час адзначыў, што БНФ рыхтуецца і да самага горшага варыянта: калі закон застанецца без змен.

### Новыя "Віцязі"

*На Віцебскім тэлевізійным заводзе заканчваюцца выпрабаванні тэлевізараў на монашасі з элементамі базы сусветна вядомай фірмы "Філіпс".*

Гэтыя тэлевізары лепшыя і больш танныя, чым тыя, што выпускаліся на заводзе дагэтуль.

БЕЛІНФАРМ.

### Знікшыя мільёны

*Спыніла збыт сваёй прадукцыі на Украіну, у Грузію, Кыргызстан, Азербайджан і Узбекістан Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі.*

Пастаўкі будуць адноўлены ў выпадку поўнага пагашэння даўгоў 1992 года заказчыкамі з гэтых дзяржаў СНД. Аб'яднаннем "выбіта" частка запазычанасці ў суме 10 мільёнаў рублёў, але яшчэ 18 мільёнаў недзе "завіслі".

Павел СКАРАМУЖ.

### Сухоты на Гарадоччыне

*Сёлета на Гарадоччыне значна пачасціліся захворванні туберкулёзам. Толькі за паўгода хворых выяўлена ў два з паловай раза больш, чым за такі ж перыяд летась. Прычыны, на жаль, такія ж, як і ўсюды: падзенне жыццёвага ўзроўню, сырыя, халодныя нават зімою кватэры, а таксама наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС.*

Згодна з загадам Віцебскага абласнога ўпраўлення здароўя, у раёне будзе праводзіцца суцэльнае флюараграфічнае абследаванне насельніцтва.

### Каштоўная расонская гліна

*На Расоншчыне распачата будаўніцтва цагельнага завода. Узводзіцца печ для абпальвання гатовых вырабаў, вядзецца будаўніцтва гліназапасніка.*

Расонская гліна ўжо выкарыстоўваецца ў Мінску. З яе робяць керамічную чарапіцу, плітку для абліцоўкі печаў, цэглу. У саміх жа Расонах гатовую прадукцыю чакаюць не пазней чым у другой палове наступнага года.

Уладзімір МІХНО.

### Умееш шыць – будзеш жыць

*У цэнтры занятасці насельніцтва Петрыкаўскага раёна адбыўся першы выпуск швачак-матарыстак і краўчых.*

На працягу двух месяцаў 15 жанчын праходзілі тут перанавучанне.

Нават калі новая прафесія і не дапаможа выпускніцам адразу ўладкавацца на працу, то будзе вельмі дарэчы ў абнаўленні гардэроба сваіх сем'яў.

Алесь ЛАРЫЁНАЎ.

### Дарагая памылка

*Складаная і небяспечная сітуацыя, вынікі якой маглі быць непрадказальнымі, склалася не так даўно на гродзенскім вытворчым аб'яднанні "Азот".*

Раптоўна спынілася падача электраэнергіі па кабельных лініях з цэц-2. З прадугледжаных на такі выпадак аварыйных блокаў не ўключаўся самы магутны. Для хімічнай вытворчасці з яе няспынным цыклам вынікі такой сітуацыі маглі быць сумнымі. У баявую гатоўнасць былі прыведзены пажарныя, газавыратавальнікі. На шчасце, абышлося без трагедыі. Больш як гадзіну стаяў "Азот" без электраэнергіі. Каля двух сутак запускаўся нанава. Страты, паводле прагнозаў спецыялістаў, склалі лічбу са шматлікімі нулямі. Як высветлілася, падача электраэнергіі была спынена з-за памылкі дзяжурнага персаналу на цэц-2. Прычыны памылкі высвятляюцца. Нявырашаным застаецца і пытанне аб кампенсацыі страт.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### З лыжкай – у бальніцу

*Наведаўшы Глыбоцкую раённую бальніцу, ветэран вайны І.С.Гінзбург з Азярцоў увачавідкі паздаравеў. І як тут ні паздаравець, калі ў бальніцы распрацавана цэлая сістэма, разлічаная, відаць, на ёгаў.*

Скажам, у палаце тут чатыры тумбачкі на сем чалавек, паўтара крэсла (адно цэлае, а другое паламанае), у сталовай часта не хапае хлеба, а калі не захапіў з дому лыжкі, то можаш і не паесці.

### Курсы валют на 19 верасня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 3807 | 3920 | 2444 | 2535 |
| "Дукат" | 3700 | 3950 | 2360 | 2560 |
| "Белбізнес банк" | 4000 | 4100 | 2580 | 2650 |

ЭКАНОМІКА

# Мы за цаной не пастаім

## Альбо аб тым, ці па кішэні спажыўцу прадукцыя нашых прадпрыемстваў

□ Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ"

Беларуская эканоміка, як вядома, адчувала ды і зараз зведвае вострую патрэбнасць у прытоку расійскіх рублёў, у атрыманні больш таннай нафты, металу, сыравіны. Дзеля гэтага, уласна кажучы, і былі заключаны ў свой час клірынгавыя пагадненні на пастаўкі прадукцыі айчынных прадпрыемстваў у Расію. Гэта нармальны рыначны працэс міждзяржаўных адносін на ўзаемазручнай падставе. "У мінулым годзе цана трактара "Беларусь", напрыклад, па клірынгу складала 16 тысяч даляраў, у той час як самі вытворцы-трактарабудаўнікі рэалізоўвалі прадукцыю па 5—5,5 тысячы даляраў, — адзначыў у гутарцы былы міністр рэсурсаў Рэспублікі Беларусь, цяпер прэзідэнт акцыянернага таварыства "Белкантракт" Уладзімір Міхайлавіч Шэпель. І падкрэсліў: — Зараз па клірынгу пастаўляе прадукцыю каля трыццаці буйнейшых прадпрыемстваў, у тым ліку мінскія гіганты МАЗ, МТЗ".

Не сакрэт, што нашы фабрыкі, заводы нават з самым высокім вытворчым патэнцыялам з вялікай цяжкасцю (і то не ўсе) упісваюцца ў сусветную рыначную эканоміку. Між тым, можна (і трэба) не толькі падтрымліваць велізарныя магутнасці на плаву, але і, разумна кіруючы працэсамі выпуску трактароў і аўтамабіляў для ўласных патрэб і для продажу на сусветным рынку, працягваць удасканальваць прадпрыемствы шляхам абнаўлення асноўных вытворчых фондаў, асваення новай прадукцыі. Бо большасць гігантаў індустрыі падтрымлівае вартае жалю існаванне. Здаецца, калі б дыхнуў ненарокам свавольнік-вецярок, — ледзьве тлеючы агеньчык свечкі патух.

Між іншым, практыка сусветных рынкаў сведчыць: тое месца, што па розных прычынах пакінула Беларусь, тут жа было занята заходнімі фірмамі. І зараз прадпрыемствы стукаюцца ў дзверы, перажываюць беспрэцэдэнтнае зніжэнне дзяржаўных заказаў.

Зусім ясна, што патрэбнасць у тых жа трактарах існавала і будзе існаваць у свеце заўсёды, паколькі і хлеб сеяць трэба, і бульбу. Вось толькі не ўся тэхніка адпавядае сучасным стандартам, у тым ліку і наша. Яшчэ менш удачная сітуацыя з іншымі таварамі.

Але возьмем трактары. Сярэднія цэны па гэтай таварнай групе выраслі за апошнія некалькі гадоў да абсурду. І віна ў тым, што тая ці іншая гаспадарка ўжо не можа набыць жалезнага "каня" не толькі трактарабудаўнікоў, але і пастаўшчыкоў сыравіны і камплектуючых, монстраў паліўна-энергетычнага комплексу, якія, відавочна, мараць выкараскацца з гразі ў князі. Ці, магчыма, у некаторых з'явілася, як кажуць кітайцы, хвароба чырвоных вачэй: няхай мне кепска, але каб і сусед адчуў "хараство" рынку. Адным словам, мне здаецца, шуміха ў кіруючых колах трактарнага з нагоды нібыта нізкіх цэн на прадукцыю, якая пастаўлялася па клірынгу, — вузкаведамаснага характару. Хоць я, канешне, не збіраюся ўхваляць сітуацыю. Сапраўды, рэспубліка ішла на некаторыя ўступкі суседцы Расіі. Так, па клірынгу закуплялася нафта па 110 даляраў за тону, але дзякуючы пастаўкам трактароў, лакафарбавых вырабаў, аўтамабіляў, яна абыходзілася нашым нафтаперапрацоўчым прадпрыемствам у 35 даляраў, а адпаведна і бензін спажыўцы атрымлівалі больш танны, а не плацілі па 8 тысяч рублёў за літр, калі б куплялі нафту па-за клірынгам. І, вядома ж, вытворца ў асобе таго ж трактарнага меў пэўныя выдаткі, бо частка сродкаў асядала ў нафце. Вось адсюль і незадаволенасць трактарабудаўнікоў пасля нядаўняй дзелавой сустрэчы з суседзямі.

Завод зацікаўлены ў пашырэнні экспарту прадукцыі ў Расію, навядзенні гандлёвых масткоў, паспрабаваў праштурхнуць на расійскі рынак яшчэ партыю трактароў. Вяліся перагаворы з заказчыкам у асобе "Расагразабеспячэння". Але візіт аўтарытэтнай дэлегацыі трактарнага ў Маскву не ўвянчаўся поспехам. У прыватнасці, намеснік генеральнага дырэктара "Расагразабеспячэння" Віктар Мікалаевіч Скуратаў, як тлумачыў намеснік генеральнага дырэктара па транспарту і збыту МТЗ Іван Віктаравіч Скурко, даў зразумець, калі справа ўжо тычылася галоўнага пытання — кошту, што наважаны закупляць трактары ў Беларусі толькі па раней абумоўленых цэнах — і не вышэй. Гэта значыць, у адпаведнасці з дагаворам па клірынгу.

Што ж, звычайная з'ява. Радыкальных рашэнняў, якія б не ўшчамлялі інтарэсаў іншага, у жыцці не бывае: плануем адны цэны, на справе трэба прытрымлівацца іншых. Ды і пара ўжо прывыкнуць — рынак ёсць рынак — тавар каштуе не столькі, колькі налічылі чыноўнікі, а колькі за яго гатовы выкласці пакупнік.

Канешне, у гэтай сітуацыі можна зразумець і адных, і другіх. Эфектыўна гаспадарыць становіцца ўсё цяжэй. Сёння між рыначным молатам і кавадлам апынуліся не толькі многія беларускія прадпрыемствы, калгасы, фермерскія гаспадаркі, але і расійскі аграрны сектар. У выніку адны імкнуцца даражэй прадаць прадукцыю, а іншыя, натуральна, больш танна купіць. Стабільнасць аптовых цэн — гэта легенда. А, значыць, яны будуць мяняцца, пакуль не будзе дасягнута згоды між таваравытворцамі і пакупнікамі.

„Можна пералічваць і пералічваць цяжкасці завода, у сувязі з уваходам у рынак, абурацца: "на вачах "праядаюцца" абаротныя сродкі, — канстатаваў намеснік генеральнага дырэктара па эканоміцы МТЗ Георгій Міхайлавіч Яскевіч, — з выручкі прадпрыемству не застаецца ломанага граша". Але ў той жа час спецыялісты трактарнага не могуць не ведаць, што існуючы дысбаланс ў цэнах на іх прадукцыю і аграрнага сектара ўжо недасягальны для большасці нават некалі заможных гаспадарак. У самую гарачую пару старшыня калгаса "Дружба" Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці Вольга Аляксееўна Луцык, напрыклад, не тоячы раздражнёнасці сказала: "Новыя трактары няхай іржавеюць ля заводскіх варотаў. Купляць няма сродкаў. Будзем яшчэ гадоў сем абыходзіцца тым, што маем. Дзякуй Богу, запчасткамі запасліся".

Сапраўды, не будзем забываць, што заходні селянін ці фермер мае тры крыніцы даходаў. Па-першае, ад продажу ўласнай прадукцыі па парытэтных цэнах, па-другое, ад прамой дапамогі дзяржавы і ўскоснай — у выглядзе гандлёвага пратэкцыянізму, рэгулявання цэн і г.д.

А наш селянін, калі цвяроза ўзважыць, аддзяліць зярняты ад пустазелля, — гол як кол. У гаспадарках няма ні прамысловага, ні гандлёвага, ні фінансавага капіталу. Нават калі і застаюцца крошкі ад продажу мяса, хлеба, то гэтых сродкаў хапае толькі на самае неабходнае — набыццё паліва і запчастак, угнаенняў, а вось на закупкі тэхнікі, тых жа трактароў, на жаль, грошай не застаецца. Але аб гэтым, здаецца, у нас не задумваюцца. Сітуацыя, якая складваецца ў сялянскіх гаспадарках, ды і ў прамысловасці з павелічэннем цэн, наводзіць на думку аб тым, што дзяржава да рабочых, сялян, якія працуюць дзеля яе росквіту, ставіцца, як да чужых дзяцей.

(Працяг на 2-й стар.).

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

Дзяжурныя па выпуску
перакладчык
Людміла КАХАВЕЦ,
рэдактар
Наталля ВАЛАКІДА.

## "Уорлднэт"

### ВЫСТУПЛЕННЕ КЛІНТАНА

*Б.Клінтан даў чарговае інтэрв'ю аб становішчы ў Гаіці.*

Ён заявіў, што ваенны рэжым у гэтай краіне зломлены. Клінтан падкрэсліў, што не збіраецца дыктаваць ніякіх умоў, аднак парламент краіны павінен стварыць новыя дэмакратычныя законы.

### ПЕРАМОГА САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

*У Швецыі прайшлі парламенцкія выбары. Перамагла сацыял-дэмакратычная партыя, якая набрала 196 галасоў.*

## "Еўраньюс"

Лідэр партыі адразу ж заявіў аб стварэнні новага ўрада. Важнейшай задачай партыі з'яўляецца пераадоленне эканамічнага крызісу і ліквідацыя беспрацоўя.

### НЕ ХОЧАМ РЫЗЫКАВАЦЬ

*За апошнія дзесяць гадоў у краінах ЕС працуючых па найму стала намнога больш, чым тых, хто мае сваю справу.*

Толькі ў дзвюх дзяржавах — Італіі і Вялікабрытаніі — адносная большасць выбрала ўласны бізнес.

### І Ў ФРАНЦЫІ ЁСЦЬ СВОЙ ФРОНТ

*Старшыня Нацыянальнага фронту Францыі вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта на маючыя адбыцца 23 красавіка 1995 года прэзідэнцкія выбары.*

Гэта ўжо трэцяя спроба лідэра фронту дабіцца прэзідэнцкай пасады.

### ВАЕННЫЯ РЭФОРМЫ Ў ІТАЛІІ

*Законапраект, які прадугледжвае скарачэнне колькасці італьянскіх узброеных сіл амаль на чвэрць і адкрывае шлях для службы жанчын у арміі, прыняты Саветам Міністраў Італіі.*

Мяркуецца, што колькасць трох відаў італьянскіх ПС будзе скарочана на працягу дзесяці гадоў з цяперашніх 330 тысяч да 250 тысяч чалавек. Акрамя таго, з гэтага часу ва ўзброенных сілах змогуць служыць добраахвотна, а таксама ўдзельнічаць у

## "Суперчэннэл"

конкурсным адборы на права заняць афіцэрскія і малодшыя камандныя пасады жанчыны-італьянкі.

### РЭЛІПЁЗНЫЯ "ХІТЫ"

*Б'юць усе рэкорды на іспанскім рынку кампакт-дыскаў... запісы малітваў і прапаведзяў папы рымскага Іаана Паўла II, запісаныя з яго дазволу.*

Выступленні папы "аформлены" музыкай Баха і Гендэля.

### "ПЕРАНЯЛІ ВОПЫТ..."

Скандал разыграўся ў свабоднай эканамічнай зоне Шэнь-чжэнь, куды прыехалі "пераймаць вопыт" некалькі членаў кіраўніцтва кітайскай кампартыі.

## "TV-5"

Яны былі арыштаваны паліцыяй у кампаніі мясцовых прастытутак.

### ПАРК ВАКОЛ МОРА

*Дзіўны парк будзе створаны вакол Мёртвага мора.*

Два цэнтры здароўя, адзін на іарданскім, другі на ізраільскім беразе, будуць аб'яднаны пешаходным мастом. Мост будзе кантралявацца адначасова іарданскай, палесцінскай і ізраільскай паліцыяй. Паміж дзвюма граніцамі будуць размешчаны шматлікія магазіны бяспошліннага гандлю.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



## БІЗНЕС-КЛАС

### КАБ МАЁМАСЦЬ НЕ "ЭКСПРАПРЫІРАВАЛІ"

Прадаць з аўкцыёну рэстаран "Парнас" са стартавым коштам у 5 мільярдаў рублёў, а таксама магазін і чайную вырашыў выканкам Горацкага гарсавета. Аднак здзелка не адбылася.

Прэзідэнт Заходняй біржы нерухомасці Міхаіл Елісееў, які праводзіў таргі ў Горках, растлумачыў гэтую сітуацыю такім чынам: "Грошы ёсць і ў камерцыйных структур, і ў прыватных прадпрымальнікаў, няма дакладнасці ў палітычных абставінах".

Занепакоенасць выклікае магчымы ўказ прэзідэнта Беларусі аб дэклараванні прыбыткаў і тое, што прыватызаваная маёмасць магла быць "экспрапрыіравана".

З другога боку, палову сумы патрабавалася ўнесці чэкамі "Маёмасць". А ў каго сёння знойдзецца 100 тысяч чэкаў, намінальны кошт якіх пры павышаным попыце можа вельмі ўзрасці?

**Святлана КУЛІКОВА.**

### ВУГАЛЬ ДАРАЖЭЕ

У верасні, упершыню за многа месяцаў, у Маскве была заўважана некаторая стабілізацыя цэн і нават зніжэнне кошту "Спажывецкай карзіны" з 19 назваў прадуктаў першай неабходнасці. Кошт гэтага набору неабходных тавараў знізіўся на цэлых 8 працэнтаў і склаў 63,1 тысячы рублёў. Але затое актыўна пайшла ўверх плата за жыллё і паслугі. Яна павялічылася на 13,2 працэнта, таму што з набліжэннем холаду рэзка падскочыла цана на вугаль і электраэнергію.

**БЕЛІНФАРМ.**

### І ВАЛЮТУ ТРЭБА ЛІЧЫЦЬ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ "Аб павышэнні эфектыўнасці выкарыстання сродкаў у замежнай валюце".

У мэтах актывізацыі прыцягнення ў Рэспубліку Беларусь замежных крэдытаў, а таксама рацыянальнага выкарыстання дзяржаўных сродкаў, у замежнай валюце Кабінету Міністраў даручана стварыць валютна-крэдытную камісію на чале з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгірам.

**Упраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

### ДВАЦЦАТЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫЙНЫ

У Мінску 7 кастрычніка Заходняй біржай нерухомасці будзе праведзены дваццаты прыватызацыйны аўкцыён. На ім будуць шырока прадстаўлены і разнастайныя аб'екты камунальнай маёмасці. Гэта чатыры аднапавярховыя будынкі пад вытворчасць у Мар'інай Горцы, недабудаваны будынак кандытарскага цэха і памяшканне клуба (у арэнду) у г.Жлобіне, рэстаран "Парнас", магазін "Будаўнічыя матэрыялы" і чайная г.Горкі, двухпавярховы будынак у Маладзечна.

Акрамя таго, таксама на аўкцыённай аснове будуць падбірацца забудоўшчыкі зямельных участкаў аб'ектамі гандлю (Мар'іна Горка, Жлобін) і асабістымі жылымі дамамі (Мар'іна Горка).

Арганізатары вельмі шкадуюць, што, нягледзячы на тое, што аўкцыён адбудзецца ў Мінску, на яго не выстаўляюцца аб'екты з мінскай прапіскай.

**Святлана КУЛІКОВА.**

ЭКАНОМІКА

# Мы за цаной не пастаім

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)**

Гэта толькі павярхоўны погляд на становішча рэчаў, на таварна-грашовую незбалансаванасць. Адны і другія, у выніку, б'юцца ў канвульсіі. Завадчане, у прыватнасці, перажываюць беспрэцэдэнтнае зніжэнне дзяржаўных заказаў, спрабуюць захаваць калектывы павышэннем цэн на прадукцыю, сяляне ж, у сваю чаргу, не чакаючы дапамогі, спадзяюцца толькі на сябе, спрабуючы пры гэтым накарміць горад хлебам.

Тыя ж трактарабудаўнікі пры ўсёй убогасці матэрыяльнай, эканамічнай, пры ўсёй запушчанасці вялізнай гаспадаркі не страчваюць усё ж адчайнай надзеі вырвацца з ганебнага кола, узляцець, хоць бы за кошт іншых. Бо пакуль не ўсё страчана, пакуль людзі маюць яшчэ дачыненне да жывога, а не амярцвелага працэсу.

Здаецца, узважыўшы адсталасць у навукова-тэхнічным плане, ацаніўшы магчымасці і прыйшоўшы да высновы, што на гэткім абсталяванні нельга атрымліваць сучасную прадукцыю, з якой можна лёгка заваяваць сусветны рынак, тут вырашылі ўдасканальваць існуючыя мадэлі, а для таварна-грашовай збалансаванасці, прыйшлі да думкі, неабавязкова расшыраць вытворчасць тавараў, калі цяжка з іх збытам, працай падняць кошт на вырабы. Тады акурат разам рашаюцца ўсе праблемы: бо аб'ём вытворчасці — гэта цана, памножаная на колькасць вырабаў, а прыбытак — розніца між цаной і сабекоштам. У рыначнай гаспадарцы, дарэчы, вытворца таксама імкнецца прадаць свой тавар даражэй, але там існуе натуральны абмежавальнік цэн — плацежаздольнае запытанне. У нас жа цэны ў большасці выпадкаў бяруцца, як кажуць, са столі.

Прынамсі, асабіста мне гэтак і не ўдалося высветліць для сябе, з чаго ўсё ж складваецца цана на той жа трактар. Намеснік генеральнага дырэктара па эканоміцы Георгій Міхайлавіч Яскевіч, у якога я спытаў аб сабекошце машыны, адказаў: гэта, маўляў, камерцыйная тайна.

Што ж, тайна дык тайна. Справа ў іншым: па меры развіцця рыначных адносін, прысуд цэнаўтварэнню выносіць сам пакупнік. Дарэчы, аб гэтым сведчаць ужо многія факты. У тым ліку і няўдачная нядаўняя паездка заводскай дэлегацыі ў Маскву. Сёння спажывец альбо прызнае сваім кроўным рублём карысць чужой працы, альбо адхіляе тавар, зусім абясцэньваючы старраннасць вытворцы — трыццацітысячнага калектыву.

Напрошваецца вывад: вытворцы сёння ўзялі за аснову самую простую пазіцыю: паспяшаліся павялічваць зарплату, не вельмі задумваючыся аб тым, што няўхільна і з кожным днём усё больш адчувальна расце іх адказнасць перад пакупніком.

Мабыць, таму дзе-нідзе прыгадваюць брэжнеўскі час як залаты век. Так, сапраўды, тады было прасцей: працягнуў адну руку — вось табе план, вось табе дзяржзаказ. Казна ўсё купляе — выдзеліць калгасам, саўгасам крэдыты на аплату машын і агрэгатаў, пасля доўг спіша — і добра. Працягнуў другую руку — май ласку атрымаць пад план фонды на прадукцыю, якая спатрэбіцца ў вытворчасці. А калі не дададуць чаго-небудзь па фондах — і з цябе не спытаюцца за план. Шукаць жа тавары на аптовым рынку, наводзіць масты з пастаўшчыкамі — справа клапотная, рызыкоўная. У рэшце рэшт, тады ніхто асабліва не задумваўся: патрэбны трактары пакупніку ці не! Калі яны выраблены ў адпаведнасці з планам— аплата гарантавана.

Сёння іншы час. Неабходна ведаць рэальныя заказы гаспадарак, фермераў, якія ў стане заплаціць за прадукцыю ўласнымі, а не дзяржаўнымі грашыма. Адным словам, жыццё патрабуе неадкладных дзеянняў і ў фарміраванні заводскіх планаў па заказах пакупнікоў, і ў падыходзе да аптовага гандлю сродкамі вытворчасці, тут і пытанні самафінансавання і той жа свабоды цэнаўтварэння, і, у рэшце рэшт, самастойнасці ў выкарыстанні прыбытку, які застаецца пасля ўсіх вылікаў.

Дарэчы, наконт вылікаў. На сёння гэта самае балючае пытанне не толькі для трактарабудаўнікоў, але і для ўсіх таваравытворцаў. "Як мы можам выпрабляць сучасную, канкурэнтаздольную тэхніку, — абурaўся намеснік начальніка планава-эканамічнага аддзела Віктар Сцяпанавіч Лабковіч, — калі не можам да гэтага часу выйсці з тупіковага становішча. Узважце нашы магчымасці, калі ў кошце на прадукцыю каля 40 працэнтаў складаюць падаткі, ці можна выкарабкацца з эканамічнай ямы? Асабліва ўзбурае акцызны падатак, які і без таго робіць даражэйшымі нашы вырабы дзесьці на 15 мільёнаў рублёў. Трактар жа — не гарэлка, дзе за цаной не пастаяць. А прыплюсуйце падатак на дабавачную вартасць...".

Так, якіх толькі дзівос не бывае. Зрэшты, трапна прыкмечана: трактар — не гарэлка. Хоць, канешне, у справе рэалізацыі няхай бы было наадварот. Лепей няхай бы існавалі чэргі за трактарамі. Вось тут і карысна паставіць класічнае пытанне: каму выгадны акцызны падатак, які фактычна ставіць у роўныя ўмовы вытворцаў гарэлкі і трактароў? Відавочна, дзяржаве, якая забылася, што вывад прамысловасці з тупіковага становішча можна ажыццяўляць у пэўнай ступені з дапамогай устанаўлення мінімальных падатковых ставак альбо шляхам поўнага вызвалення прадпрыемстваў ад падаткаабкладання. Але ў нас з самага пачатку вызначыўся працэс рэфарміравання дзеля рэфарміравання. Заводы, фабрыкі абвешаны падаткамі, нібыта лапікамі, з галавы да ног, а гонка цэн перакладзена на плечы спажыўцоў.

Адным словам, не трэба мець лоб на сем пядзяў, каб зразумець: цяпер спажывецкі рынак разрэгуляваны дашчэнту. Мы ўжо праскочылі той момант, калі яшчэ можна было правесці кампенсаванае павышэнне цэн на прадукцыю таго ж аграрнага сектара і тым самым палепшыць яго становішча з набыццём неабходнай сельскагаспадарчай тэхнікі, трактароў. Патрэбны, такім чынам, не чарговы перагляд цэн зверху, а змяненне самога прынцыпу іх вызначэння, гэта значыць глыбокая рэформа цэнаўтварэння. Без яе мы кроку не ступім у эканамічных пераўтварэннях, яшчэ больш узмацнім і без гэтага безнадзейнае становішча аграрнага сектара, а гэта значыць, пацерпіць і пастаўшчык прадукцыі — трактарны, рынак збыту прадукцыі якога звузіцца яшчэ больш. Бо калі не будзе попыту на дарагія, да таго ж неканкурэнтаздольныя па многіх тэхнічных характарыстыках на сусветным рынку трактары — вытворчасць іх аўтаматычна спыніцца, а грамадства збавіць сябе ад аплаты бескарыснай працы, зберажэ метал, паліва, электраэнергію, якія ў сабекошце трактара займаюць істотнае месца.

"Цэны на тую ж электраэнергію растуць штомесяц, — з крыўдай канстатаваў намеснік начальніка планава-эканамічнага аддзела МТЗ Віктар Сцяпанавіч Лабковіч. — Толькі з пачатку года яны выраслі ў 2,5 раза, і ўжо за тысячу кілават-гадзін даводзіцца выкладваць з заводскай казны 290 тысяч рублёў".

Аднак вернемся да пытання аб пастаўках трактароў па клірынгу. Варта адзначыць, што спецыялісты трактарнага, з якімі сустракаўся, крыўдавалі, маўляў, вось і ў гэтым годзе неабходна паставіць у Расію 18 тысяч трактароў па больш нізкіх цэнах, гэта значыць, па клірынгу, што ў мінулым годзе завод панёс страты на 69 мільярдаў рублёў, што з-за рознасці ў цэнах ад свабоднай рэалізацыі і па клірынгавых пастаўках, удушлівых падаткаў, прадпрыемству застаецца ўсяго сем-восем працэнтаў прыбытку. Словам, клірынг, маўляў, падрывае рынак. Аднак ніхто з іх не прыгадаў, што за кошт клірынгу пастаўляліся заводу па значна ніжэйшых цэнах тысячы тон нафтапрадуктаў, дзякуючы клірынгу намнога хутчэй праходзілі плацяжы заводаў, у тым ліку і трактарнага, — за сыравіну, камплектуючыя. А, зрэшты, неплацяжы з іншымі рэгіёнамі, калі ідзе папярэдняя аплата, аказваюць сур'ёзны ўплыў на гаспадарчую дзейнасць прадпрыемстваў. Хоць, канешне, ніхто не сцвярджае, што клірынг — лепшы метад гандлю.

"Нядаўна вось зрабілі аплату даўгоў трактарнага ў межах 1,3 мільёна даляраў на рахунак "Мінскэнерга" за энерганосьбіты, — прывёў прыклад прэзідэнт акцыянернага таварыства "Белкантракт" Уладзімір Міхайлавіч Шэпель. — Доўг у памеры 1,8 мільёна даляраў пагашаны аўтамабільнаму заводу. Адным словам, не крыўдзім партнёраў. Рынак — гэткая справа: альбо ён ёсць, альбо яго няма. Усё ў руках вытворцаў".

Што тычыцца канкрэтна трактарабудаўнікоў, то, натуральна, ім, як кажуць, свая кашуля бліжэй да цела, і таму абыякавасць да таго, што ў рэспубліцы адчуваецца недахоп расійскіх рублёў для ўваходжання ў рынак, ім лёгка дараваць. Яны не жадаюць ісці на ўступкі заказчыкам, не хочуць пакідаць ранейшыя цэны на прадукцыю, а, гэта значыць, выхад са складанага становішча бачаць у цэнавых накрутках, а не ў стварэнні канкурэнтаздольнай прадукцыі па больш даступных цэнах. Іншымі словамі кажучы, яны спрабуюць вырваць з рыначнай мадэлі прынадную частачку (хто вырабляе больш новага кошту, той і багацее), хітрамудра адхіліўшы менш прыемныя дэталі суровай, але і адзіна эфектыўнай таварнай вытворчасці. Што ж — іх справа. Аднак варта памятаць, што карыстацца пэўнымі патураннямі рыначнай гаспадаркі можна да пары да часу. Што спажывец чакае якаснай прадукцыі, да таго ж, па больш нізкіх цэнах ды яшчэ з адпаведнымі гарантыямі — тэхнічным абслугоўваннем і сервісам у працэсе эксплуатацыі. І тут яго, спажыўца, можна ігнараваць доўга, але — не бясконца...



## Людзі з памежжа

**У Астравецкім раёне жыве каля тысячы літоўскіх сем'яў. Жывуць, як жылі спрадвеку, у міры і дружбе. Розніца толькі ў тым, што і па тутэйшай зямлі, і па душах людзей прайшла цяпер дзяржаўная граніца. Цяпер у госці да маці, брата, дзяцей, якія жывуць усяго за некалькі кіламетраў, можна паехаць толькі, аформіўшы візу.**

**Амаль усе дзяржавы Заходняй Еўропы адкрываюць адзін аднаму свае граніцы — гэта прыкмета цывілізаванасці. На спыненне іх, як вядома, патрэбны лічаныя мінуты. А ў нас...**

**Вёскі Гярвяты, Гіры, Рымдзюны, Гелюны Астравецкага раёна насяляюць, у асноўным, літоўцы. Разам з імі дружнай сям'ёй жывуць беларусы, палякі, рускія, яўрэі. І раней гэтыя сем'і аднолькава лічылі сваімі сталіцамі як Мінск, так і Вільнюс. Цяпер жа, каб трапіць у Вільнюс, які знаходзіцца за пяцьдзесят кіламетраў, трэба праехаць цэлую тысячу, матаючыся па розных установах. Ці ісці да сваякоў у Літву глухіміляснымі сцежкамі.**

**У вёсцы Гярвяты, дзе зроблены здымкі, усе літоўскія сем'і не скардзяцца ні на мясцовыя ўлады, ні на суседзяў іншых нацыянальнасцей. Жыццём і адносінамі да сябе задаволены. І здымкі, зробленыя ў Гярвятах, — лепшы доказ гэтага.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**

МОВА ЗЯМЛІ

## Бердыж

Вёска Бердыж, што размешчана на поўдзень ад Чачэрска, вядома ўсім, хто цікавіцца старажытнай беларускай гісторыяй, сваімі унікальнымі археалагічнымі помнікамі. Бердыжскія наваколлі былі абжыты чалавекам больш за 23 тысячы гадоў назад. У 1926 годзе беларускі археолаг К.Палікарповіч знайшоў тут крамянёвыя прылады працы, косткі жывёл, абломак зуба мамanta. Далейшыя даследаванні, праведзеныя ў 1954 і 1978 гадах, далі магчымасць зрабіць вывад аб знаходжанні ў наваколлях Бердыжа пасяленняў эпохі неаліту і бронзавага веку (гл. больш падрабязна пра гэта ў кн.: Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993. С.88).

Для нас асаблівую цікавасць уяўляе сучасная назва таго ўрочышча, дзе якраз і адкрыты такія старажытныя стаянкі (так званае "Паселішча № 2"). Урочышча называецца Кокаўня. Дык вось, гэтая назва паходзіць ад слова кока, ці кука, якое ў вельмі сівой старажытнасці выкарыстоўвалася славянамі для абазначэння гары, выгнутага ўзвышша. Урочышча Кокаўня якраз і знаходзіцца на такім берагавым узвышшы (побач — рака Сож). Роднасныя слову кока, кука абазначэнні маюцца ў самых разнастайных мовах: персідскае кох, кух — "гара, вяршыня гары", "горны хрыбет"; лезгінскае кук — "вяршыня гары"; рускае дыялектнае (пскоўскае) кокорка, кокорька — "узгорак". Ёсць адпаведныя словы ў балгарскай, славенскай, таджыкскай і іншых мовах.

Назва самой вёскі Бердыж узнікла ў старажытнарускі перыяд, дзесьці паміж X і XI стагоддзямі. Пасяленне на месцы сучаснага Бердыжа заснавалі, на наш погляд, радзімічы. У ста метрах на захад ад Бердыжа яшчэ ў XIX стагоддзі вядомы даследчык гісторыі краю Еўдакім Раманаў выявіў каля 50 паўсферычных, паўкруглых насыпаў вышынёй ад аднаго да двух з паловай метра. Гэта быў старажытны курганны могільнік радзімічаў, якія з'явіліся тут прыкладна ў X стагоддзі.

Радзімічы далі і назву пасяленню. Найменне Бердыж утварылася ад славянскага слова берда ў значэнні "ўзгорак, узвышша". Гэта слова існуе ў многіх славянскіх гаворках, у тым ліку ў балгарскіх, славацкіх, чэшскіх, сербахарвацкіх, дзе яно азначае "гара, узвышша"; ва ўкраінскіх дыялектах словы бердівка, бердівля, бердів'е абазначаюць горную пашу, скалу, скалісты абрыў, глыбы камянёў. Вядомы падобныя словы і ў рускіх гаворках, але таксама, як і ў іншых славянскіх мовах, яны распаўсюджаны ў тых раёнах, дзе ёсць узвышаны, горны рэльеф, напрыклад, на Валдайскім узвышшы. У Беларусі, дзе гор і значных узвышшаў няма, слова берда ў геаграфічным сэнсе, гэта значыць для абазначэння ўзвышанага рэльефу, цяпер амаль не выкарыстоўваецца. Але вось што цікава: значэнні слова берда і яго варыянта — бёрда — "гара, узвышша, скала, абрыў"— з'яўляюцца другараднымі. Яны ўзніклі ў выніку пераносу па асацыяцыі, падабенству ад першаснага значэння слова — "частка ткацкага станка", "грабяні з зубцамі". Такія значэнні слова берда, бёрда вядомы і ў сучасных беларускіх гаворках.

Нашы продкі ўтварылі назву пасялення Бердыж ад слова берда, відаць, таму, што высокі рачны бераг, на якім яны спыніліся і абсталяваліся, нагадваў ім узвышша ці нават невялікую гару. Да таго ж, слова берда ў той час, у X—XI стагоддзях, як можна меркаваць, ужывалася ў мове славянскіх плямёнаў даволі актыўна. Усё гэта і абумовіла нараджэнне назвы. У далейшым вёска перамясцілася ад ракі Сож, але найменне яе засталося.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ, кандыдат філалагічных навук.**

КУР'ЕР "ЧЗ"

### У ГРЫБНЫХ "ЛІДЭРАХ" – ГРОДЗЕНЦЫ

Рэспубліканскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі паведаміў, што сумнае лідэрства па грыбных атручваннях і ў гэтым годзе належыць гродзенцам. У разгар грыбнога сезона пакуль што толькі з гэтай вобласці ён атрымлівае звесткі аб пацярпеўшых.

За жнівень—верасень у Гродзенскай вобласці атруціліся 18 чалавек. Усе яны апынуліся ў бальніцах у цяжкім стане, чатырох з іх так і не ўдалося выратаваць. Ахвярамі сталі пажылая жанчына, вайсковец 32 гадоў і маладая маці з двухгадовым дзіцянём.

### РЭФАРМАТЫ ПРАТЭСТУЮЦЬ

Беларускі евангелічны рэфармацкі збор правёў чарговае пікетаванне Мінгарвыканкама. Асноўнае патрабаванне хрысціян-рэфарматаў — выдзеліць пляцоўку для сваёй царквы.

Вырашыць гэта пытанне яны дамагаюцца ад мясцовых улад другі год. Два гады таму, калі зарэгістраваўся збор, ён абвясціў сябе пераемнікам традыцый беларускага рэфармацтва, якое існавала да 1920 года. Пад час акцыі вернікі перадалі зварот прэзідэнту ад кіраўніка Сусветнага альянсу рэфармацкіх цэркваў з просьбай дапамагчы беларускім хрысціянам-рэфарматам і забяспечыць ім роўныя правы разам з іншымі канфесіямі.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### КАЛІ Б ЯШЧЭ НЕ ЎТОЙВАЛІ ДАХОДЫ...

Даволі адчувальна пачалі папаўняць у Пінску гарадскі бюджэт камерцыйныя прадпрыемствы, якіх тут каля 330. Толькі за першае паўгоддзе ў казну ад іх паступіла 3,7 мільярда рублёў, або 5,5 працэнта ўсіх яе даходаў. Вядома, магло быць і больш, калі б не масавае ўтойванне даходаў. За гэты ж час падатковай інспекцыяй з прадпрымальнікаў спагнана ў выглядзе штрафаў каля 625 мільёнаў рублёў.

Названыя лічбы прыводзіліся на сходзе прадстаўнікоў мясцовага бізнесу. На ім было вырашана стварыць у Пінску рэгіянальны саюз прадпрымальнікаў і больш цесна супрацоўнічаць з гарадскімі ўладамі.

**Іван КУКСА.**

### ХТО ЗАТРЫМЛІВАЕ ПАЯЗДЫ?

У спісе парушальнікаў графіка руху пасажырскіх паяздоў Беларускай чыгункі першае месца займаюць... мытнікі і пагранічнікі. Прааналізаваўшы работу за жнівень, супрацоўнікі пасажырскай службы засмуціліся. Аказалася, што на пагранічных станцыях была парушана работа 45 пасажырскіх паяздоў увогуле на 1149 мінут. 36 з іх затрымалі пагранічнікі на 717 мінут. Зразумела, што менавіта гэтыя службы павінны спыняць правоз у вагонах любых кантрабандных грузаў. Але пры іх выяўленні марнуецца даволі шмат часу на разбор. А ў выніку Беларуская чыгунка нясе немалыя страты, якія ёй ніхто не вяртае.

У развітых дзяржавах такой праблемы няма. Таму што і мытнікі, і пагранічнікі строга рэгламентаваны ў сваіх дзеяннях спецыяльнымі нарматыўнымі дакументамі. Але ў Беларусі сёння такіх праваых актаў няма. Таму чыгуначнікі прапануюць збіраць плату за нанесены чыгунцы ўрон з саміх кантрабандыстаў. Толькі ў такім выпадку можна разлічваць на рытмічную работу пасажырскага транспарту.

**Наталля НЕВІДОМАЯ.**

*Сто артыкулаў з*

# БАРАНІЛІ ЗЕМБІНЦЫ

**Віктар ЕРМАЛОВІЧ, кандыдат гістарычных навук**

На перасячэнні дарог Лагойск — Бягомль і Барысаў — Плешчаніцы, за 28 кіламетраў на паўночны захад ад Барысава, знаходзіцца мястэчка Зембін. Яго гісторыя бярэ пачатак у XVI стагоддзі. Першае ўпамінанне аб ім у пісьмовых крыніцах звязана з судовымі справамі і адносіцца да 1592 года.

Гісторыя невялікага мястэчка багатая. Пакінулі тут аб сабе нядобрую памяць салдаты шведскага караля Карла XII, помніцца 1708 год, Паўночная вайна. Не абышлі Зембін і французскія заваёўнікі. Прайграўшы 27—28 лістапада 1812 г.бітву каля вёскі Студзёнка, што на Барысаўшчыне, здавалася, непераможны Напалеон уцякаў з поля бою з мізэрнай кучкай салдат, што засталася ад некалі грознай 600-тысячнай арміі, што ўварвалася ў Расію. Першы яго прыпынак з начлегам быў у Зембіне, дзе ўцекачы ўчынілі пагром, у выніку якога згарэла шмат жылых дамоў, гаспадарчых пабудоў. Загінула і адна з багацейшых у тыя часы на Беларусі бібліятэка, што знаходзілася пры мясцовым Дамініканскім манастыры, заснаваным у 1640 годзе.

І ХХ стагоддзе "багатае" на спробы іншаземных заваёўнікаў "асвоіць" гэтыя мясціны. Прыходзілі "гасцямі" няпрошанымі на гэтую зямлю кайзераўскія салдаты і легіянеры Пілсудскага, але самымі чорнымі ў гісторыі Зембіна сталі гады Вялікай Айчыннай вайны, дні і ночы фашысцкай акупацыі. Вайна забрала 1045 жыццяў зембінцаў, каля дзвюх трацей даваеннай колькасці насельніцтва пасёлка. На франтах вайны і ў партызанскіх атрадах аддалі жыццё за свабоду і незалежнасць Радзімы 118 зембінцаў, астатнія 927, у асноўным старыя, жанчыны і дзеці, сталі ахвярамі злачыннай акупацыйнай палітыкі фашыстаў.

Фашысцкія войскі ўступілі ў Зембін 30 чэрвеня 1941 года, пасля кароткачасовага, але гарачага бою. Улічваючы стратэгічную важнасць пасёлка, які знаходзіўся на перасячэнні дзвюх важных дарог, нямецка-фашысцкае камандаванне размясціла тут свой гарнізон. У асноўныя вузлы абароны акупанты ператварылі пабудаваны ў 1809 годзе касцёл і адкрытую ў 1811 годзе царкву Святога Міхаіла. Побач з нямецкім гарнізонам было створана падраздзяленне паліцыі з ліку здраднікаў Радзімы, якіх узначаліў Д.Эгоф. Сам ён немец з Паволжа. У Зембіне пасяліўся ў перадваенныя гады і працаваў настаўнікам нямецкай мовы ў мясцовай школе. Ён ведаў амаль усіх камуністаў, камсамольцаў і многіх актывістаў. Невыпадкова, што ўсіх іх, хто не паспеў пайсці або застаўся для падпольна-дыверсійнай работы ў тыле ворага, гітлераўцы і эгофскае "воінства" арыштавалі і знішчылі. Ужо на 17-ы дзень акупацыі фашысты і іх памагатыя ўчынілі масавы расстрэл асоб яўрэйскай нацыянальнасці, знішчыўшы сотні савецкіх людзей.

Злачынствы акупантаў выклікалі пратэст сярод насельніцтва мястэчка. У 1942 г. у Зембіне пачала дзейнічаць падпольная арганізацыя. Здраднікам стала няўтульна. Крывавы палач Эгоф пакінуў Зембін. Немцы ўзвялі яго ў чын маёра паліцыі і назначылі начальнікам службы парадку Барысаўскай акругі.

Арганізатарамі і кіраўнікамі падполля сталі Канстанцін Вусцін і Вольга Бакун. Арганізацыя налічвала дзесяць чалавек, яе стварэнню папярэднічала вялікая канспіратыўная работа па падбору і праверцы людзей. Асноўны касцяк склала "баявая пяцёрка", работай якой кіравала Вольга Ціханаўна Бакун. Акрамя яе,у групу ўваходзілі: М.А.Аляксандрава, Е.Ц.Бакун, М.Ф.Клішына і М.А.Якубоўская. "Баявая пяцёрка" ў поўным саставе працавала ў лагеры-лазарэце для параненых савецкіх ваеннапалонных, у якім знаходзілася 47 чалавек. Лагер-лазарэт размяшчаўся побач з нямецкай камендатурай. Падпольшчыкам прыходзілася рызыкуючы жыццём дастаўляць воінам прадукты харчавання, дэфіцытныя для ваеннага часу медыкаменты, якія перапраўляліся барысаўскімі падпольшчыкамі. Дзякуючы іх подзвігу многія савецкія ваеннапалонныя змаглі выжыць, а 12 чалавек з ліку ачуняўшых удалося пераправіць да партызан, дзе яны працягвалі барацьбу з ворагам. Доўгі час іх лёс заставаўся невядомым. І толькі ў 1985 годзе дзякуючы юным следапытам стаў вядомы лёс аднаго з іх — Васіля Якаўлевіча Карзянкова. Яго, байца разведвальна-дыверсійнага атрада асобага прызначэння НКУС СССР, параненага, у непрытомным стане захапілі ў палон немцы. Ён трапіў у Зембінскі лагер лазарэт. Марыя Якубоўская літаральна выхадзіла Васіля Карзянкова і захавала яму руку, хаця урач В.Ц.Бакун настойвала на ампутацыі. Пасля некаторага часу, калі палепшылася яго здароўе, падпольшчыкі арганізавалі ўцёк Васіля да партызан. Але вынікі ранення аказаліся цяжкімі, хутка партызаны адправілі яго самалётам на Вялікую зямлю. Лячыўся ён доўга і перамогу сустрэў у шпіталі. Перанёс 21 аперацыю. У лістападзе 1985 года ветэраны Марыя Адамаўна Якубоўская і Васіль Якаўлевіч Карзянкоў сустрэліся, ажывіўшы сваімі ўспамінамі подзвіг падпольшчыкаў.

Сумесна з "пяцёркай" законспіравана працавала група братоў Канстанціна і Пятра Вусціных. Пра іх дзейнасць ведала толькі В.Ц.Бакун. Яна каардынавала сумесныя дзеянні. Праз братоў Вусціных падтрымлівалася сувязь з партызанскай брыгадай "Дзядзькі Колі" і Барысаўскім гарадскім падполлем. Канспірацыі садзейнічаў той факт, што Канстанцін Вусцін, будучы гаспадаром явачнай кватэры, замаскіраваў яе пад майстэрню па рамонту абутку, што не прыцягвала вялікай да яе ўвагі акупантаў і іх памагатых з ліку мясцовых жыхароў. Падпольшчыкі збіралі і дастаўлялі партызанам інфармацыю пра нямецкі гарнізон, боепрыпасы. Яны перапраўлялі параненых пасля папраўкі з лагера-лазарэта ў лес да партызан, распаўсюджвалі лістоўкі. Па зместу гэта былі зводкі Савецкага інфармбюро і звароты, такія, як: "Да ўсіх савецкіх грамадзян і грамадзянак горада Барысава і Барысаўскага раёна!", "Бургамістрам валасцей, служачым гарадскіх упраўленняў і камендатур, старастам, паліцэйскім, карпуснікам, да асоб з украінскіх батальёнаў, створаных гітлераўцамі, да ўсіх тых, каго падманулі нямецкія захопнікі, хто з-за страху служыць ворагу", выдадзеныя Барысаўскім падпольным гаркамам-райкамам КП(б)Б у маі 1943 года і распаўсюджаныя патрыётамі сярод насельніцтва Зембіна і бліжэйшых вёсак у другой палове чэрвеня таго ж года. З лістовак зембінцы даведваліся пра падзеі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, разгром нямецкіх войск у Сталінградскай бітве і выгнанне захопнікаў з роднай зямлі. Паліцэйскія, служачыя нямецкіх устаноў і ўсе тыя, хто быў, падманам або сілаю, прымусова уцягнуты служыць ворагу, атрымалі надзею на дараванне віны. Гэта рабілася пры ўмове пераходу са зброяй да партызан.

Дзякуючы дзейнасці падпольшчыкаў камандаванне партызанскай брыгады "Дзядзькі Колі" атрымлівала каштоўную інфармацыю. 5 снежня 1942 года партызанам удалося ажыццявіць адважны напад на нямецкі гарнізон у Зембіне. У ходзе гэтай аперацыі быў цяжка паранены баец атрада "Камунар" Аляксандр Окунеў, ураджэнец г.Барнаула. Яго ў цяжкім стане на чацвёрты дзень пасля бою знайшла жыхарка адной з бліжэйшых вёсак і выдала паліцаям. Пасля катаванняў і здзекаў, не дабіўшыся звестак аб партызанах, фашысты пакаралі смерцю мужнага змагара. Барацьба падпольшчыкаў працягвалася больш як год. Гітлераўцы пра многае даведаліся. "Хмары" пачалі згушчацца над галовамі патрыётаў. Фашыстам і памагатым удалося натрапіць на след М.Якубоўскай. Немцам стала вядома, што яе брат — партызан атрада імя А.В.Суворава. Падпольшчыкі адправілі яе да партызан 20 жніўня 1943 года, адразу пасля начнога дзяжурства ў лазарэце. Зрабілі гэта своечасова. Праз некалькі гадзін па яе прыйшлі немцы. Астатнія падпольшчыкі з саставу "пяцёркі" на чале з В.Ц.Бакун пайшлі ў лес 3 верасня таго ж года. Канстанцін і Пётр Вусціны, а таксама людзі, што засталіся з імі, уліліся ў рады партызан 15 верасня 1943 года разам з сем'ямі. Яны сабраліся

## ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

### ПРЫВІЛЕЯВАНЫЯ І ЛЬГОТНЫЯ АКЦЫІ

*"Нягледзячы на ўсе перасцярогі, збіраюся набыць акцыі аднаго з акцыянерных таварystваў. Але не магу зразумець, чым адрозніваюцца паміж сабой прывілеяваныя і льготныя акцыі. Растлумачце, калі ласка.*

**С.Дажджун, г.Барысаў".**

Прывілеяваная акцыя не дае права голасу, але прыносіць фіксаваны дывідэнд і мае перавагу перад звычайнымі акцыямі пры размеркаванні прыбыткаў, а таксама пры размеркаванні актываў у выпадку ліквідавання таварыства.

Ільготныя акцыі — гэта акцыі, якія атрымліваюць члены працоўнага калектыву ў працэсе прыватызацыі іх прадпрыемства ў выпадку, калі быў выбраны першы варыянт ільгот. Па гэтаму варыянту ўсім членам працоўнага калектыву і асобам, якія прыраўнаваны да іх і маюць права на льготы, па-першае, аднаразова бязвыплатна перадаюцца імянныя прывілеяваныя акцыі. Яны складаюць 25 працэнтаў устаўнога капіталу, але не больш дваццацікратнага памеру вызначанай заканадаўствам мінімальнай аплаты працы ў разліку на аднаго працуючага.

Па-другое, звычайныя акцыі, якія складаюць да 10 працэнтаў устаўнога капіталу, але не больш шасцікратнага памеру вызначанай заканадаўствам мінімальнай аплаты працы ў разліку на аднаго працуючага, прадаюцца па закрытай падпісцы членам працоўнага калектыву са скідкай 30 працэнтаў ад іх намінальнага кошту і прадастаўленнем растэрміноўкі да трох месяцаў. Пры гэтым першапачатковы ўзнос не можа быць меншым за 50 працэнтаў намінальнага кошту акцый.

Такім чынам, ільготныя акцыі — гэта акцыі, якія набылі альбо бясплатна, альбо са скідкай.

Акрамя работнікаў прадпрыемстваў, на набыццё такіх акцый маюць права: былыя работнікі, у якіх стаж працы на прадпрыемстве, што прыватызуюць (не менш як 10 гадоў для мужчын ды 7 гадоў і 6 месяцаў для жанчын), і звольненыя па асабістаму жаданню, па скарачэнню штату, пры рэарганізацыі прадпрыемства, а таксама пенсіянеры, якія афармілі і выйшлі на пенсію на дадзеным прадпрыемстве

### НЯМА ДАКУМЕНТАЎ – ЁСЦЬ АРХІЎ

*"Да вайны я вучылася ў педагагічным інстытуце. Дакументы аб вучобе не захаваліся. Ці можна пацвердзіць перыяд навучання па паказаннях сведак?*

**М.Агурцова, Мінск."**

Згодна з Палажэннем аб парадку пацвярджэння працоўнага стажу для прызначэння пенсій, зацверджаным пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 24 снежня 1992 года № 777, час дзённага навучання ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах пацвярджаецца дыпломамі, пасведчаннямі, а таксама даведкамі і іншымі дакументамі, выдадзенымі на падставе архіўных даных, якія змяшчаюць звесткі аб перыядах вучобы.




Пацвярджэнне часу навучання паказаннямі сведак заканадаўствам не прадугледжваецца.

### "НАЙМУ АДНАПАКАЁВУЮ КВАТЭРУ..."

*"Колькі каштуе арэнда аднапакаёвай кватэры ў Мінску?*

**І.Самахвал, Баранавічы."**

Прапануем цэны на арэнду аднапакаёвых кватэр па стану на ліпень 1994 года.

1. Экалагічна-неспрыяльныя для пражывання раёны — 35—60 даляраў ЗША ў месяц.
2. Мікрараёны Уручча, Вяснянка, Зялёны Луг, Усход, раён вул. Сурганава, Магілёўскай, Чкалава, Варанянскага і т.п. — 60—80 даляраў ЗША.
3. Цэнтр і бліжэйшыя да яго раёны (пл.Перамогі, пр. Скарыны, пр. Машэрава) — 80—100 даляраў ЗША.

Важным паказчыкам, які вызначае кошт арэнды кватэры, з'яўляецца месцазнаходжанне, г.зн. раён, а таксама наяўнасць тэлефона і стан мэблі. Так, кватэры ў новабудоўлях (Малінаўка, Сухарава), дзе адсутнічае тэлефонная сувязь, не карыстаюцца попытам.

### ЗОРАК НА НЕБЕ— ЛІЧЫЦЬ НЕ ПЕРАЛІЧЫЦЬ

*"Сам ніколі не бачыў, але кажуць, што зоркі падаюць. А колькі ўвогуле на небе зорак і ці шмат іх упала?*

**К.КАВАЛЬЧУК, вучань 7 класа, г.Смалявічы."**

Простым вокам на небе можна разлічыць прыкладна тры тысячы зорак, а праз невялікі тэлескоп — мільёны. Паводле падлікаў астраномаў, толькі наша Галактыка — Млечны шлях — складаецца са 100 мільярдаў зорак, а саміх галактык — мільярды...

Што датычыцца так званых "падаючых зорак", то гэта зусім не зоркі, а метэоры - невялікія камені ці маленькія касмічныя часціцы, якія падаюць з вялікай хуткасцю ў зямную атмасферу і поўнасцю згараюць у ёй. Час ад часу "пасланцы космасу" могуць быць дастаткова вялікіх памераў і, не поўнасцю згарэўшы, дасягаюць паверхні зямлі. Іх называюць метэарытамі. Увогуле кожны год на паверхню Зямлі падаюць мільёны метэарытаў агульнай вагой каля 200 тон.

## АЗБУКА ЗДАРОЎЯ

# Сцеражыцеся хімічных алоўкаў

Колькі стагоддзяў таму адным з самых распаўсюджаных жаночых захворванняў была пухліна малочнай залозы. Хвароба нявечыла, псавала орган, надаючы яму, як некаму тады здалося, форму непрыемнага беспазваночнага. Так і з'явілася назва гэтага захворвання, што і зараз гучыць па-ранейшаму страшна і дзіка — рак. Пра новыя даследаванні ў галіне анкалогіі расказвае загадчык аддзялення эпідэміялогіі рака ў НДІ анкалогіі Юрый Іванавіч Авіркін.

— Рак — гэта хвароба, на якую хварэе ўсё жывое — рыбы, птушкі, жывёлы, чалавек, нават расліны (тыя нарасты, што можна ўбачыць на галінах дрэў, — таксама ракавыя "пухліны"). І хоць існуе хвароба столькі ж, колькі ўсё жыццё на Зямлі, мы дагэтуль не ведаем дакладнай прычыны яе ўзнікнення. Але прыкладная сутнасць развіцця захворвання такая: нейкая клетка, вырашыўшы быць незалежнай ад мозга, раптам пачынае ліхаманкава размнажацца. Утвараецца пухліна, што прымушае "працаваць" на сябе ўвесь арганізм, карміць яе, а потым забівае свайго "кармільца".

— Дык што ж уздзейнічае на тую першапачатковую клетку, выводзіць яе з нармальнага стану?

— Калі б я тое ведаў, даўно меў бы залаты помнік — нейкая амерыканская акадэмія абяцала гэта таму, хто разгадае сакрэт рака. Уся справа ў парадаксальнасці фактараў, што выклікаюць анкалагічныя захворванні. Раней "вінаватымі" лічылі генетычныя мутацыі. Але з часам высветлілася, што гэта не так. Між іншым заўважылі, што, напрыклад, у Японіі часцей хварэюць на рак страўніка, а ў Амерыцы — на рак тоўстай кішкі. Калі ж японская сям'я пераязджае ў Штаты, праз некалькі пакаленняў небяспека захворвання на рак тоўстай кішкі павышаецца ў японцаў да амерыканскага ўзроўню. Назваць прычыну гэтага вельмі цяжка, аднак навукоўцы вылучаюць пэўныя фактары, што могуць выклікаць рак. Па-першае, хімічныя рэчывы. Гэта высветлілася, калі на пачатку стагоддзя сярод чыноўнікаў ЗША з'явілася даволі рэдкае захворванне — рак языка. Аказалася, ім часта даводзілася лізаць свае хімічныя алоўкі, каб лепш пісалі...

Другі фактар — фізічнае ўздзеянне: пухліны развіваюцца пасля траўм, часам на месцы невялікага сіняка. Сюды ж далучаецца і радыяцыйнае ўздзеянне. Напрыклад, калі былі адкрытыя рэнтгенаўскія промні, іх пачалі ўжываць літаральна паўсюдна — і вельмі неасцярожна. Нават у магазіне абутку пакупнік мог убачыць сваю нагу на экране рэнтгенаўскага апарата, каб праверыць, ці зручна сядзіць на ёй абноўка. А праз колькі гадоў дзесяткамі пачалі з'яўляцца хворыя на рак скуры.

Нарэшце, апошні фактар — мікрабіялагічны: анкалагічныя захворванні здольныя выклікаць разнастайныя вірусы.

— Ці паўплывала Чарнобыльская аварыя на колькасць анкалагічных хворых у Беларусі?

— Графікі колькасці хворых на рак заўсёды паўзлі ўгору, а ў апошнія дзесяцігоддзі бывалі і рэзкія "ўзлёты", і "спускі". Такім чынам мы не можам катэгарычна сцвярджаць, што рост колькасці хворых, які назіраецца зараз, звязаны менавіта з Чарнобылем. Ёсць толькі адзін канкрэтны факт, які даказвае гэтую сувязь — амаль усе выпадкі захворванняў на рак шчытападобнай залозы ідэальна накладваюцца на карту заражэння краіны радыёактыўным ёдам. Інфармацыі па іншых відах рака мы не маем з-за нястачы сродкаў на такія даследаванні...

— А якія метады лячэння рака існуюць у сучаснай медыцыне?

— Першы — хірургічны. Другі — хімічны. Але хімічныя рэчывы вельмі зніжаюць імунітэт арганізма: хворы можа памерці і ад грыпу. Распрацоўваецца метад радыяцыйнага абпраменьвання пухліны, у працэсе якога яна разбураецца... Нядаўна з'явіўся новы метад — гіпатэрмія, інакш — награванне цела хворага да тэмпературы 41°С, якую хвароба не вытрымлівае. Аднак пакуль ні адзін з усіх метадаў, на жаль, не гарантуе стопрацэнтнага поспеху...

— Зусім нядаўна па тэлебачанні гучалі просьбы такога кшталту: "У майго дзіцяці лейкоз. Патрэбны грошы на аперацыю за мяжой. Дапамажыце!" Што ж "у іх" за аперацыі, і чым яны адрозніваюцца ад айчынных метадаў лячэння?

— Абсалютна нічым. Тыя ж аперацыі ці тое ж хімічнае ўздзеянне. Адно толькі, каб правесці курс лячэння, хворага падтрымліваюць мноствам дадатковых лекаў альбо забяспечваецца поўная стэрыльнасць палаты. Але і за мяжой гэтак жа паміраюць ад рака — і хвароба забівае там нават больш людзей, чым у нас.

— Ці магчымыя прафілактычныя агляды ў анкалогіі?

— Яшчэ некалькі гадоў таму іх праводзілі ў вялізнай колькасці, пакуль не пераканаліся ў іхняй неэфектыўнасці, у рэшце рэшт, урач — не экстрасенс... А абпраменьваць людзей рэнтгенам у нашай паслячарнобыльскай сітуацыі наогул вельмі небяспечна. Такім чынам, пухліны выяўляюцца на апошніх стадыях, калі папярэдзіць ужо нічога немагчыма...

— Штодня вы бачыце дзесяткі хворых, асуджаных на смерць...

— На пачатку работы гэта, безумоўна, б'е па нервах. Потым пачуццё смерці робіцца ўжо звычайным. Не магу толькі прывыкнуць да аднаго: побач з маім кабінетам дзіцячыя палаты, і мы часта чуем, як крычаць дзеці. Ад болю, ад страху... І нічым ім нельга дапамагчы. Магчыма, гэта прагучыць кашчунствам, але я магу толькі дзякаваць Богу, што дзве трэція хворых на рак — людзі, старэйшыя за 60 гадоў, яны хоць колькі пажылі. Але ні ім, ні ўрачам ад гэтага, вядома, не лягчэй...

— А ці былі наогул людзі, што прайшлі курс лячэння і цалкам вылечыліся?

— Безумоўна ж, былі. У картатэцы нашага аддзялення запісаныя людзі, узятыя на ўлік яшчэ ў 1948 годзе. Зараз яны абсалютна здаровыя і цудоўна сябе адчуваюць. Мы збіраем дакладную інфармацыю пра хворых на рак па ўсёй рэспубліцы і шукаем пэўныя заканамернасці, што выклікаюць хваробу. Заўважана, што на глiністых глебах хварэюць часцей, чым на тарфяніках. Таму яшчэ вызначаем раёны з найменшай колькасцю захворванняў на рак, каб рэкамендаваць іх для перасялення жыхарам з больш небяспечных тэрыторый. І, зразумела, займаемся распрацоўкай новых метадаў лячэння. Асноўная праблема — як ва ўсіх: не хапае грошай...

...Калі я развіталася з Юрыем Іванавічам, над горадам раптам распачаўся шэры дождж, быццам аплакваючы чалавечы боль...

**Вольга ДЗЯЦЮК.**

*Заўсёды прыемна, калі ў вобразе роднага горада з'яўляецца нешта незвычайнае. Магчыма, не вельмі вялікія сродкі спатрэбіліся, каб ажывіць вось такім пано безаблічны тарэц дома ля ўваходу ў кафэ "На Падгор'і", што па вуліцы К.Маркса ў Мінску.*

*А колькі такіх месцаў у горадзе чакае свайго часу! Бадай, трэба было б гэтыя неабсяжныя "палотны" аддаць маладым мастакам, як гэта ўжо даўно зрабілі нашы суседзі — прыбалты. Няхай упрыгожаць тварэнні маладых наш горад!*

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ.**

**Фота аўтара.**

## АПЛАДЫСМЕНТЫ

### У ДОМЕ МУЗЫКІ - НОВЫ СЕЗОН

Унікальнай праграмай дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пачаўся 15 верасня новы сезон у галоўным музычным доме рэспублікі — Белдзяржфілармоніі.

Разам з музыкай Вагнера і Брамса ўпершыню прагучала ў гэты вечар "Сімфонія нумар 9" Дзмітрыя Смольскага. За дырыжорскім пультам стаяў маэстра П'ер-Дамінік Панэл з Германіі, якога звязвае з беларускім аркестрам даўняя і плённая творчая дружба.

Чым яшчэ парадуе новы сезон паклоннікаў сур'ёзнай музыкі? На гэтае пытанне адказвае мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі Юрый Гільдзюк.

— Наш 57-ы сезон будзе цікавым і разнастайным, — гаворыць Юрый Мікалаевіч. — Першая палова сезона будзе адзначана Міжнародным днём музыкі І кастрычніка, "Беларускай музычнай восенню" ў лістападзе, І Міжнародным конкурсам духавых драўляных інструментаў — флейты, кларнета, габоя і фагота, аўтарскімі канцэртамі кампазітараў Уладзіміра Алоўнікава, Яўгена Глебава, Віктара Капыцькі, пленумам Саюза кампазітараў Беларусі, IV фестывалем "Адраджэнне беларускай капэлы" і закончыцца каляднымі вечарамі. Адбудуцца спецыяльныя сімфанічныя канцэрты, прысвечаныя новай музыцы, напрыклад, "Сімфоніі апакаліпсіса" Алега Янчанкі. Другая палова сезона пройдзе пад знакам 50-годдзя Перамогі над фашызмам. Працягнецца і работа калектываў над запісамі на кампакт-дыскі, што дапамагаюць свету знаёміцца з беларускім мастацтвам.

**БЕЛІНФАРМ.**

*—гісторыі Беларусі—*

# РОДНЫ КРАЙ



позна вечарам на кватэры Канстанціна Вусціна, пагрузілі на адны калёсы медыкаменты, медыцынскі інструментарый, боепрыпасы і некалькі аўтаматаў, на другія — адзенне і прадукты харчавання. Ноччу рушылі ў дарогу. Наперадзе, ведучы за аброць коней, запрэжаных у калёсы, ішлі Канстанцін і Пётр Вусціны, за імі — жонка і дзеці К.Вусціна. Але далёка адысці ім не давялося. Яны натрапілі на засаду і былі абстраляны немцамі і паліцэйскімі. Канстанцін Вусцін загінуў. Жонку паранілі, але яна знайшла сілы ўцячы з малымі дзецьмі ў лес і дабрацца да партызан. Аднак, не атрымаўшы своечасовай медыцынскай дапамогі, ужо знаходзячыся ў партызанскай зоне, яна памерла ад раны. Неўзабаве памерла ў паўтарагадовым узросце і дачка Вусціных. З усёй сям'і выжыў толькі сын. Тады яму было тры гады. Астатнія з гэтай групы дабраліся да партызан.

Лёс іншых падпольшчыкаў склаўся больш шчасліва. В.Ц.Бакун нейкі час працавала хірургам у партызанскім шпіталі брыгады "Дзядзькі Колі", а ў красавіку 1944 года яе прызначылі начальнікам гэтага шпіталя. Тут жа санітаркай працавала і М.А.Аляксандрава. М.Ф.Клішыну як фельчара 27 верасня 1943 года накіравалі ў партызанскі атрад імя Суворава. Е.Ц.Бакун (родная сястра В.Ц.Бакун) стала байцом атрада спецпрызначэння, якім камандаваў А.І.Белавусаў. Выконваючы заданні камандавання, яна 14 разоў з месца дыслакацыі атрада ў раёне возера Палік прабіралася ў г.Барысаў і вярталася назад з выкананым заданнем.

Паражэнне і значныя страты нямецкай арміі пад Масквой у асенне-зімовай кампаніі 1941—1942 гг. прымусілі А.Гітлера дазволіць выкарыстанне савецкіх ваеннапалонных у складзе дапаможных войск, якія зваліся "дружынамі". У значнай ступені яны выконвалі гаспадарчыя і ахоўныя задачы, часам удзельнічалі ў карных аперацыях супраць партызан. Пазней з гэтых злучэнняў была створана "Руская вызваленчая армія". З дружыны, якую ўзначальваў У.У.Гіль-Радзівонаў, у 1943 годзе была створана "Руская нацыянальная народная армія".

Пад уплывам звестак аб поспехах Чырвонай Арміі на франтах Вялікай Айчыннай вайны частка асабовага саставу гэтай арміі, на чале якой стаяў Гіль-Радзівонаў, наладзіла сувязь з кіраўніцтвам брыгады "Жалязняк". У жніўні 1943 г. амаль 3 тысячы чалавек разам са сваім камандзірам Гіль-Радзівонавым, перайшлі на бок партызан. Загадам Беларускага штаба партызанскага руху з перайшоўшых стварылі 1-ю Антыфашысцкую брыгаду. Камандзірам яе прызначылі У.У.Гіль-Радзівонава.

21 верасня 1943 года 1-я Антыфашысцкая брыгада пад камандаваннем палкоўніка У.У.Гіль-Радзівонава разграміла гітлераўскі гарнізон у мястэчку Зембін. Аб тым баі напамінаюць у нашы дні руіны царквы і касцёла, дзе шукалі выратавання рэшткі буйнога на Барысаўшчыне гарнізона акупантаў. У ходзе васьмігадзіннага бою партызаны знішчылі 60 гітлераўцаў: 2 нямецкіх афіцэраў, 44 салдат і 14 паліцэйскіх. Былі знішчаны тры дзоты, спалены харчовы і склад з боепрыпасамі. Страты партызан у гэтым баі склалі: 12 забітых і 33 паранёныя. Было захоплена ў якасці трафеяў 2 мінамёты, 3 станковыя і 6 ручных кулямётаў, 1 гранатамёт, 5 пісталетаў-кулямётаў, 10 вінтовак і 4 рэвальверы, што знаходзіліся на ўзбраенні праціўніка.

Зембінская аперацыя магла мець большыя вынікі, звязаныя з расшырэннем партызанскай зоны да раёна міжрэчча рэк Гайны і Бярэзіны, уключаючы і пасёлак Зембін. Але, брыгады "Дзядзькі Колі" і "Смерць фашызму", якія дзейнічалі сумесна з 1-й Антыфашысцкай брыгадай, не выканалі сваю задачу па знішчэнню мастоў цераз Гайну і Бярэзіну на шашы Зембін—Барысаў. У выніку па гэтых мастах на дапамогу варожаму гарнізону ў Зембіне прабілася матарызаваная калона гітлераўцаў. Партызаны былі вымушаны адступіць на зыходныя пазіцыі ў раён вёсак Кісялёўка, Чабатары, Смольніцы, Патрэбішча, Ляды і Масцішча. Толькі ўмелыя і рашучыя дзеянні камбрыга У.У.Гіль-Радзівонава выратавалі брыгаду ў падобнай сітуацыі ад вялікіх страт.

Некалькі месяцаў пасля таго, у час карнай аперацыі "Веснавое свята" ў ходзе Полацка-Лепельскай бітвы 1944 г. 1-я Антыфашысцкая партызанская брыгада ўсё-ж панесла незаменныя страты, а палкоўнік У.Гіль-Радзівонаў атрымаў некалькі цяжкіх ран, ад якіх 14 мая 1944 г. памёр. Камандзірам стаў І.М.Цімчук. Пазней яму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Камісарамі брыгады з'яўляліся А.М.Касцяневіч, І.М.Цімчук і І.М.Яўмененка; начальнік штаба Б.М.Панамарэнка. За час існавання брыгады яе асабовы састаў разграміў варожы гарнізон у Докшыцах і на чыгуначнай станцыі Крулеўшчына, у Зембіне, разам з іншымі злучэннямі ўдзельнічаў у нападзе на варожы гарнізон у г.Вілейка. 28 лістапада 1943 г. на дарозе Лагойск-Плешчаніцы разграміў варожую калону, знішчыў 250 гітлераўцаў, правёў шмат іншых удалых аперацый. Радзівонаўцы цаной крыві і свайго жыцця загладзілі сваю віну перад Радзімай і народам.

4 ліпеня 1944 г. на час злучэння з часцямі Чырвонай Арміі асабовы састаў 1-й Антыфашысцкай брыгады налічваў 422 партызаны з 3 тыс. пачаўшых шлях партызанскай барацьбы ў жніўні 1943 г. Сярод іх быў і атрад, сфарміраваны ў восені 1943 года з мясцовых жыхароў, дзе было нямала і зембінцаў.

Шмат і іншых слаўных спраў партызан і падпольшчыкаў Барысаўшчыны ў гады Вялікай Айчыннай вайны звязана з гісторыяй пасёлка Зембін. 1095 дзён і начэй доўжылася ноч фашысцкай акупацыі для жыхароў мястэчка. 1 ліпеня 1944 г. воіны 16-га гвардзейскага стралковага корпуса і 35-й танкавай брыгады вызвалілі Зембін ад акупантаў. З гэтага дня распачалася новая старонка ў гісторыі мястэчка і яго жыхароў. Пачаўся працэс адраджэння і мірнага будаўніцтва.

У пасляваенныя гады быў перабудаваны гістарычны цэнтр Зембіна. На месцы старых забудоў з'явіліся новы Дом культуры, некалькі магазінаў, кафэ "Каласок" і Дом быту. Адначасова з павелічэннем вытворчых магутнасцей мясцовы калгас "Зара" за кошт сваіх уласных сродкаў пабудаваў для хлебаробаў новы жылы пасёлак, які стаў неразрыўнай часткай сучаснага Зембіна. Сёння калгас "Зара". цагляны завод, лесазавод, лясніцтва і іншыя прадпрыемствы і ўстановы гарпасёлка пераадольваюць цяжкасці пераходнага перыяду, зазіраюць у заўтрашні дзень.

Большасць зембінцаў справядліва звязвае многія дасягненні з прозвішчам былога старшыні калгаса Мікалая Пятровіча Шчурына, які кіраваў мясцовай гаспадаркай у 50—70-я гады. Створаны ў той час эканамічны падмурак даў магчымасць нарошчваць капітальнае будаўніцтва, забяспечваць людзей жыллём, узводзіць на тэрыторыі пасёлка аб'екты сацыяльна-культурнага прызначэння.

Матэрыяльныя разбурэнні ваеннага часу ўдалося ліквідаваць адносна хутка, а вось страты людскія да сёння адчуваюцца, як раны смыляць у памяці нашчадкаў. Дагэтуль колькасць жыхароў Зембіна не дасягнула даваеннага ўзроўню.

Зембін ва ўсе часы свайго існавання быў багатым на таленавітых людзей. Гэты край даў краіне многіх выдатных хлебаробаў і высокакваліфікаваных рабочых, інжынераў, настаўнікаў і ўрачоў, ёсць сярод іх і вучоныя. Калі спатрэбілася, многія з іх не пашкадавалі ўласнага жыцця дзеля Радзімы. Але найбольшы гонар землякоў выклікаюць два прозвішчы: военачальніка і вучонага Уладзіміра Раманавіча Вашкевіча і вядомага ў свеце мастака Надзеі Пятроўны Лежэ (уроджаная — Хадасевіч).

Генерал-палкоўнік У.Р.Вашкевіч у гады Вялікай Айчыннай вайны прайшоў шлях ад камандзіра дывізіі да начальніка штаба 3-га Прыбалтыйскага фронту. Пасля вайны займаў адказныя пасады ў кіраўніцтве Узброеных Сіл СССР. Апошнія гады быў начальнікам кафедры Ваеннай акадэміі Генштаба СССР.

Надзея Лежэ, вядомы мастак, жонка і паплечнік славутага французскага мастака XX стагоддзя Фернана Лежэ. У гады Другой сусветнай вайны яна з мужам удзельнічала ў французскім руху Супраціўлення. Пасля вайны перадала на Радзіму ў дар сваім землякам 35 карцін, у тым ліку і некалькі сваіх работ. Падораная Н.Лежэ калекцыя паклала пачатак існуючай цяпер у Зембіне мастацкай галерэі.

Жыхары Зембіна справядліва ганарацца сваімі славутымі землякамі. І верыцца, што і ў будучым гэта зямля застанецца невычэрпнай крыніцай таленавітых людзей, патрыётаў сваёй Радзімы.

**Рубрыку вядзе доктар гістарычных навук, прафесар кафедры паліталогіі Мікола КУЗНЯЦОЎ.**




### ПАМЯЦІ ЗАГІНУЎШЫХ

*У брытанскім горадзе Ангальце адбылося свята, прысвечанае памяці загінуўшых воінаў у час Другой сусветнай вайны.*

15 верасня 1944 года войскі саюзнікаў спрабавалі зламаць нацысцкі рэжым. Тады тут загінула некалькі дзесяткаў тысяч чалавек.

### ПРЫЕХАЛІ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА СПРАВУ РУК СВАІХ...

*А тым часам былыя нямецкія салдаты ўпершыню наведалі месцы масавага знішчэння насельніцтва ў Польшчы ў час Другой сусветнай вайны.*

Кіраўнік нямецкай групы заявіў, што такой ганьбы больш не паўторыцца...

### ЦЯЖКАЯ НЯДЗЕЛЯ Ў САРАЕВА

*У мінулыя выхадныя тут адбыліся ўзброеныя сутычкі. Было забіта 6 чалавек, 18 паранена.*

Становішча ў рэспубліцы нестабільнае. У Сараева няма вады і энергіі.

### П'ЯНЫЯ САЛДАТЫ НЕБЯСПЕЧНЫЯ НЕ ТОЛЬКІ Ў НАС

*3 брытанскія салдаты абвінавачваюцца ў забойстве 23-гадовай датчанкі.*

Маладая дама ехала на матацыкле і была збіта аўтамабілем. На месцы аварыі застаўся толькі матацыкл, цела ж было знойдзена на беразе мора.

### ПАВОДКА Ў ІСПАНІІ

*Ва ўсходняй частцы Іспаніі ўзнікла паводка з-за моцных дажджоў.*

*2 чалавекі загінулі ў аўтакатастрофах. У 6—8 мільёнаў ацэньваюцца страты, нанесеныя стыхіяй сельскай гаспадарцы.*

### НА ГАІЦІ – "ЦВЁРДАСЦЬ І НЕПАРУШНАСЦЬ"

*Міністр абароны Гаіці выступіў па тэлебачанні.*

Ён заявіў пра "цвёрдасць і непарушнасць" ваеннага рэжыму Гаіці.

### ДУХ МАНРО

*Як паведаміў пісьменнік Лоры Якабсан, дух нябожчыцы Мерылін Манро часта наведвае яе былы пакой у "Галівуд Рузвельт Атэлі".*

Так адна з работніц, якая працірала люстэрка ад пылу, убачыла ў ім бландзінку, павярнулася да яе, але там нікога не было. Аднак адлюстраванне ў люстэрку заставалася яшчэ некаторы час.

### РОК–ФЕСТЫВАЛЬ У ІЗРАІЛІ

*У ізраільскім горадзе Арад прайшоў традыцыйны рок-фестываль.*

У рамках фестывалю адбылося каля тысячы канцэртаў і выступленняў, якія наведалі сотні тысяч маладых людзей з усіх куткоў краіны і з-за мяжы.

### ЗНАЙСЦІ ДЗІЦЯ

*У дзіцячых дамах Заіра цяпер знаходзіцца 17 тысяч руандзійскіх дзяцей, якія страцілі сваіх бацькоў у час вайны.*

Многія дзеці не ведаюць нават сваіх імён. Таму кожнаму дзіцяці далі свой нумар і сфатаграфавалі. Гэтыя фотаздымкі будуць змешчаны ў газетах, каб бацькі маглі пазнаць сваіх дзяцей, а потым па нумарах знайсці іх.

### ФУТБОЛЬНЫЯ СТРАСЦІ ПА–БРАЗІЛЬСКУ

*На футбольным стадыёне ў Рыо-дэ-Жанейра адбыліся сутыкненні паміж фанатамі клуба "Васко дэ Гама" і балельшчыкамі іншай каманды.*

У ход былі пушчаны камні і палкі. Некалькі чалавек арыштаваны.

